# „МАЛАНКА“

## ЧАСОПІСЬ ГУМАРУ, ЖАРТАЎ і САТЫРЫ.

# 1928.



Рэдакцыя „МАЛАНКА“ Вільня, Гэтманская вул. № 2.

Друк. Крайнэс і Кавальскі Вільня, Вялікая 39.

ГОД ВЫДАН. III. Przesyłka pocztowa opłacona ryczałtem ЦАНА 30 ГРОШ.

# Маланка

ЧАСОПІСЬ ГУМАРУ, ЖАРТАЎ І САТЫРЫ

1. IV. 1928 „МАЛАНКА" СМАЛІЦЬ·ШТО·ДВА·ТЫДНІ! № 4

## Ужо павеяла вясной... лятуць к нам буслы...

Першае паседжаньне польскага Сойму было вельмі бурлівае, дзеля чаго паліцыя вывела некалькі паслоў з салі Сойму. Маршалкам Сойму быў выбраны пас. Дашынскі (П. П. С.).

*(З газэт).*




**Першы вясновы бусел:** Што гэта такое, няначай спорт які? Кіну ім гэта дзіцятка, а сам ходу далей. Будзе ім добрая неспадзяванка на „Prima Aprilis".




# Перша-апрэльская радасьць.

Ад'званілі званы
Прадвыборчай маны,
На пяць новых гадкоў
Сьціхлі зноў крыкуны.

Між сялян-бедакоў...
. . . . . . . . . . . . . . . .
Ужо засеў за сталы
Сойм „напраўцаў“ ўдалых,

Міргнуў вокал паном;
Усё сваім чарадом
Пойдзе ў нас падаўнейшаму...
. . . . . . . . . . . . . . . .

Гатуйся, браце, спатыкаць
Жыцьця направу, асалоду, —
Пакіне лёс нас дапякаць,
Бултыхне ён, як камень ў воду.

Чакай, вось рай настане хутка, —
Пайшлі-ж цябе ўжо бараніць. .
Браткі, ах шчасьце так блізютка,
Пакінем плакаць ды тужыць.

З кісельным берагам рака
Запахне сьвежым малаком, —
Усё для цябе, для мужыка,
Падбег, і... сёрбай чарпаком.

Душа, як спомніш, задрыжыць,
Бы той кісель. Ну, бойся-ж Бога,
Ці сьніў, ці думаў ты так жыць,
Мой беларус — мужык-нябога.

Дадуць зямлі-зямелькі мілай
І школку дзеткам на пацеху.
Ня будзеш браць,—вапхнуць, брат, сілай,—
Бяры, якога скажуць, ліха!..

Усё тваё: зямля і воля,
Вада і рыба, птушкі, неба...
Можа ня хопіць часам солі
Да стравы ды кавалка хлеба.

Дык гэта-ж глупства! — Ты прывык
Карміць душу сваю надзеяй.
Абы вясна, — жыве мужык, —
Крапіўка, траўка зелянее!..

І выйдзеш ты у родна поле,
Вітаці будзеш сонца, неба.
І птушак хор табе аб волі
Пяяці будзе. Усё, як трэба...

А ты з шчасьліваю душой
Шаптаці будзеш: хлеба... хлеба!..

М. Васілёк






# Народны гумар.

## ЛІТАСЬЦІВАЯ.

На местачковай плошчы адбываюцца муштры жаўнераў. Праходзіць міма бабка і дзівіцца:

— І за што іх так муштруюць, гэта-ж яны грудкі сабе паадбіваюць, аб зямлю валячыся. Лепш на пожаньку іх завялі-б, усё-ж мягчэй было-б.

— Нічога,—лепшыя будуць,—адказаў селянін.

*Яз. П.*

## ДОБРА АДКАЗАЛА.

Селяніна ўкусіў шалёны сабака. Яго прывязьлі да доктара. Дзьверы адчыняе жонка доктара і азнаямляе:

— Пан доктар прыймае толькі ад сёмай гадзіны, а цяпер ужо дзевятая. Прыдзеце заўтра.

— Але што-ж хворы вінаваты, што падла—той, шалёны сабака, відаць, быў няграматны і ўкусіў яго пасьля прыймовых гадзін.

## АДЗІН У ПЛОТ, ДРУГІ Ў ГАРОД.

Паліцыянт, абходзячы на вёсцы сялянскія гаспадаркі, пытае:

— А дзе твой „устэмп“ (месца да зьліваньня розных брудаў)?

— У хаце, — ў скрыні.

— Што ты пляцеш, дурню, то *не можэ* быць?

— А гэта што, — адказвае селянін, выймаючы з скрыні „kartę wstępu“ — дазвол на возку дроў з лесу.

*Ю. С.*

## У СУДЗЕ.

— Абвінавачаны назваў вас караваю. — Гэта слова я ня лічу, як зьнявагу.

— Дык у такім прыпадку вы, пане судзьдзя, — бык...

*К. С.*

## ПАСЬЛЯ ВЫБАРАЎ.

— Як-жа ты, бабулька, галасавала?

Эт, дай спакой! Ксёндз у касьцёле як пастрашыў мяне смалой, пеклам і рознымі там чартамі і ўсё казаў за паноў галасаваць, дык я ўсю дарогу плакала ды... галасавала.

*Я. М.*

## АРГУМЭНТ.

Двое сялян пачалі спрэчку, які край большы—Польшча ці Амэрыка.

— Вядома, што Амэрыка — большы, — адказвае адзін.

— Э, дзе там большы! Надовячы я атрымаў ад сына, што ў Амэрыцы, ліст, дык ён з Амэрыкі два тыдні йшоў, а па Польшчы больш двох месяцаў хадзіў...

— Гм... вось дзіва!...

*Я. Б.*

## ДАЎ ЗДАЧЫ.

Пан-абшарнік наняў для свайго сына настаўніка, які паходзіў з сялянскай сям'і. Вітаючыся з ім, пан пагардліва падаў яму ўсяго адзін палец рукі.

— Вялікі гонар, пане! — Цэлы палец для мяне зашмат, вось вам, паночку, паўпальца здачы,— адказаў настаўнік, падаючы пану скручаную фігу.

## МОЖА АБАРОНЯЦЬ.

У аддзел аховы гістарычных забыткаў прыходзіць старая бабулька:

— Паночку, сыны мяне крыўдзяць, карміць ня хочуць, з хаты выганяюць...

— Гэта не мая справа, мы толькі старымі гістарычнымі рэчамі займаемся.

— Брыдка вам з мяне сьмяяцца... і я-ж старая: паўтары капы гадкоў стукнула.

*Я. Бадзяк.*

## ДОБРЫ ЗАКЛАД.

Два хлапчукі - таварышы пайшлі аб заклад, хто даўжэй прабудзе пад вадой...

— Ну, і што:

— Абодва далі нурца ў ваду. Першы хутка вынырнуў, а другі напэўна-б заклад выйграў,—даўжэй за яго пад вадой быў, знайшлі яго ажно на другі дзень у кустох няжывога.

## ПАМІЖ ТАВАРЫШАМІ.

— Я цябе даўно знаю, а ня бачыў ні разу цябе закаханым.

— А як-жа, быў закаханы і навет моцна.

— А як доўга вы кахаліся?

— Гм... гэтага я не заўважыў, бо ня меў тады пры сабе гадзіньніка.

*Яз. Н.*

## НЯ ПЭЎНЫ.

Адна вельмі няпрыгожая і ўжо немаладая дзяўчына, ўбачыўшы жабрака, кліча яго ў хату і просіць:

— Дзядулька, не пашкадую табе сала і грошай, памаліся, каб я толькі сёлета замуж выйшла.

— Ахвяру я ўзяць магу, — адказвае жабрак, —але за малітву ня ручаюся...

*Яз. П.*

## КУЛЬТУРНЫ ЖАБРАК.

— Паночку, ахвяруйце сьляпому...

— Які-ж ты сьляпы, калі газэту чытаеш?

— Эт, якое гэта маё чытаньне, вось так сабе рысункі пераглядваю.

*А. М.*

## ПРЫЧЫНА.

— Я з сваёй жонкай жыву 26 гадоў і ўсё вечарамі сяджу дома.

— Вось гэта дык праўдзівае каханьне!

— Не, я хварэю на почкі.

**„Зиз“.**

# Перша-апрэльскія песьні




**пас. Ярэміч:**

Эх, ты доля, мая доля,
Ты салодкая мая! —
Зноў шчасьліва, мая доля,
Ты да Сойму давяла...
Эх дыеты, вы дыеты,
Маю вас цэлы мяшок.
За пяць гадоў, мае дыеты,
Насыплю поўненькі гаршчок!...



**сэн. Багдановіч:**

Многі леты, многі леты
Праваслаўны рускі люд!...
Заграбаць буду дыеты
За свой „праведный я трудъ".
Зноў у Сойм іду з кадзілам...
(„Между намі говоря")
Мо' вярнеш о, Божа мілы,
Зноў нам „бацюшку-царя!"...



**пас. Каруза:**

Я цяпер большая шышка,
Чалавек я не малы,
Бо папаў я незнарокам
З арганістага ў паслы.
Мне арганаў больш ня трэба, —
Лепш дыеты і мандат;
Хоць пасол я незавідны,
Але долі сваёй рад!...

# Іскра праўды.

Першага красавіка прынята заўсёды маніць...

Маніць і... нават не засароміцца.

А мне наадварот: хочацца раскрыць адну, быць можа, што і зусім нявольную, ману якраз у гэты самы дзень агульнае прыгожае маны.

Хочацца кінуць хоць іскру праўды ў вочы тым, хто прывык вельмі неасьцярожна спэкуляваць на беларускіх вартасьцях ды старацца бачыць іх толькі на сваім партыйным падворку.

Гісторыя дайшоўшае да маіх вушэй маны вось якая:

Пачуў я гэтую ману ў урачысты дзень 25-га сакавіка 1928 году ў гэтакай паважнай сваім назоўным выглядам інстытуцыі, як:

**„Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры".**

Была ўрачыстасьць... было сьвяткаваньне дзесятых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці.

Малады чалавек (пардон: пасол на Сойм!) літаральна чытаў з пісанага ці друкованага, чытаў блізка што сьлібізуючы, даўжэнны рэфэрат аб тым, як дайшлі мы да гэткага сьвята.

Што сьлібізуючы чытаў, дык мо' і ёсьць на гэта прычына: лектар ха-дэк, і калі рэфэрат яму напісалі не лацінкай, а гражданкаю, то ўжо і ясна:

Мусіў сьлібізаваць.

А што з хадэцыяй сваёю надта ўжо вытыкаўся, дык прычыну гэтага вытлумачыць трудна.

Слухаю і дзіўлюся:

Паважаны лектар нядвузначна націснуў на тое, што беларуская хадэцыя была ледзь не галавою, ледзь што ня душою акту 25-га сакавіка 1918 году.

Соцыялістыя, бач, думалі інтэрнацыянальна, а хадэцыя (ў 1918 г. „Беларуская Хрысьціянска-Дэмакратычная Злучнасьць"), дык тая, бач, і думае, і жыве і сьпіць, і сьніць — ня толькі па-хрысьціянска-дэкакратычнаму, а і пабеларуску.

Ну, і слава ёй, набожненькай!

Аднак-жа, пры чым тут наша гісторыя, нашае сьветлае мінулае, быўшае 10-ць гадоў назад?

Капаюся ў гэтай гісторыі, прыпамінаю ўсё, што магу, і аказваецца:

25-га сакавіка 1918 г. незалежнасьць абвешчана была невялікім лікам адраджэнцаў. Пакінулі іх у гэты дзень у Радзе Рэспублікі прадстаўнікі расейскіх гарадоў і земстваў на Беларусі, пакінулі небеларускія партыйцы, і абвясьцілі тады незалежнасьць 27 чалавек беларусаў *плюс* некалькі жыдоўскіх соцыялістых.

З дваццацёх сямёх беларусаў і аднаго жыдоўскага голасу за незалежнасьць—усе былі соцыялістыя (прынамсі, гэткімі сябе прызнавалі), апрача аднаго Янкі пацяперашняму *спадара*, якога ніхто тады і не падазраваў, каб ён быў ха-дэкам.

Так вось і абыйшлося тады зусім без хрысьціянскай дэмакратыі.

Ніхто ёй у мінус гэтага ня ставіць, але, праўду кажучы, невялікае і шчасьце (калі мерыць цяперашнім пасольскім аршынам), абвяшчаць незалежнасьць:

Бо ніхто за гэта дыэтаў ня плаціць цяпер, не плаціў і *во время оно.*

Праўда і тое, што гэткія рэчы за грошы ня робяцца.

Ніхто не падумае, што ўсе гэтыя праўды — першаапрэльскі жарт.

Не падумае можа й той, хто сваю палітычную кар'еру пачынае:

Сьлібізуючы!

**Picolo.**

# беларускіх паслоў і сэнатараў.




**пас. Янка Станкевіч:**

Ходаў-ходаў, пераходаў,
Цям мой дарма не прапаў:
Ці то цудам, ці прыгодай
Ў „Законадайку“ я папаў.
Эх, цяпер задам-жа пару
Я з „Народам“ у рукох, —
То-ж ня жарты са „Спадарам“,
Калі ён наставіць рог!..




**пас. Валынец:**

Раней быў я „грамадзісты“,
Пасьля пайшоў з „Спадаром“
І з „спадарскай“ панскай лісты
Цудам стаўся я паслом.
Куды-ж цяпер мне прытуліцца,
Дзе-ж галовачку схаваць?
Ці лепш з Янкам рэзжаніцца,
Ці з Ігнатам працаваць???




**пас. Дварчанін:**

Эх ты, Нёман, рака!
Ці ты думаў, ці сьніў,
Каб у Сойме Ігнат
Беларусь бараніў?!
Але выбраў народ,
Дык у Сойм я іду
І з сабою нясу
Розных спраў грамаду...

## Нюрачка - савдурачка.

(*МАЛЕНЬКІ ФЭЛЬЕТОН*).

Нюра паступіла ў Наркамфін,
Там што дня сядзела шэсьць гадзін
Нюрачка канторшчыца,
Нюрачка тапоршчыца...

Для яе тут служба – з маслам блін!
Усе любяць Нюрачку, яе фігурачку,

Яе прыгожы выбелены твар...
Ўсе з Нюрай дружацца,
Ля Нюры кружацца,
Аж Нюру проста кідае у жар.
Нюрачка майструе туалет,
У люстэрка суне свой „партрэт“...

Нюрачка ня тужыць,
Кожны дзень так служыць, —
Думала што ў гэтым весь сакрэт.
За „непарочныя“ і „сьверхурочныя“
Даюць ёй грошай многа і паёк...
На болей квапілась
Ды чыстка трапілась...
Ад страху сэрца Нюрачкі ёк, ёк!...
Вось і камісара габінэт,
Нюра тут забыла туалет...

Тут не да убраньня —
Задаюць пытаньне, —
Адчыняюць службы ўвесь сакрэт...
Дрыжаць у Нюрачкі ўсе фігурачкі,
Язык ня можа слова гаварыць,
І сьвет ёй круціцца,
І ў вочках муціцца
І белы твар ад сораму гарыць...
— Вы павінны даць тут нам адказ,
Высшы орган ўлады хто у нас?

Нюрачка сканфужана,
Стаіць перапужана,
Глядзіць на камісію даўгі час.
Маўчала Нюрачка, вось дык савдурачка,

Ня ведаць гэтага, які канфуз!...
Скрыпела зубкамі,
Мыляла губкамі...
Пасьля і кажа: „Цэнтрабелсаюз“...
— А нашто існуе „Жен'отдел“,
Які мае сувязь з Ц. Бюро?!

— Туды ідуць жаніцца (!)..
Трэба-ж памыліцца?!
Тут і „ўваткнулі ёй пяро“...
Вось песьня Нюрачкі, савецкай дурачкі,

І гэту песьню трэба кожнай пець:—
Усе вы Нюрачкі,
Усе савдурачкі,
Куды з „пяром“ вам прыдзецца ляцець?

**Цвыркун.**

(*З радавага гумару*).

## За разьвітаньне з зімой.

(*Песьня беларускага вучня*).

Ох, і далася мне у знакі
Сёлетагодняя зіма;
Ў пальце дзіравым, небарака,
Ўздыхаў ня раз я да цяпла.

Апроч пальта, бедаў бяз ліку:
Штаны дзіравыя і фрэнч,
Вылазяць пальцы з чаравікаў—
Хоць, брат, сабакай тут заенч!

Жыцьцё, вядома, пролетара,
Другі сабака лепш жыве...
І я ня раз, і сьніў, і марыў
Аб сонцы, шчасьці і вясьне.

Прайшлі, нарэшце, дні пакуты,
І жорсткі студзень гдзесьці зьнік,
Мінуў марозны, й цяжкі люты,
Мінуў таксама й сакавік.

А красавік сьмяецца сонцам,
І чалавек лягчэй ўздыхне...
То зноў слата ў маім ваконцы
І вецер віхурой дзьмухне...

Здаецца цёпла, а мне сьцюдзёна,
І зноў я мару аб вясьне,
Прыдзі хутчэй, вясна - мадонна,
Або прысьніся, хоць у сьне!..

*Чэх.*

# Новая біблійная гісторыя у малюнках.




## Плач на рэках... беларускіх.

Быўшыя кандыдаты на паслоў і сэнатараў: **М. Чатырка, Ад. Більдзюкевіч, Пані Антаніна, „Дзядзька Тодар“ (Вернікоўскі), А. Міткевіч і Пан Францішак Умястоўскі:** — На рэках беларускіх стаім мы і плачам, — чаму-ж ты, беларускі народзе, ня даў нам сваіх галасоў?...

---

### ПРАКТЫЧНАЯ.

*Кавалер (стыдаючыся):*

— Ах, дазвольце мне зьявіцца Вам у сьне...

— Калі ласка, вось вам мой адрэс.

### МАЛЕНЬКАЕ НЕПАРАЗУМЕНЬНЕ

*Рэдактар:* Сёньня з-за вас зусім ня мог спаць. Усю ноч успамінаў вас.

*Сэкрэтарка:* (чырванеючы): Ой, ня можа гэта быць!

*Рэдактар.* Усю ноч папраўляў я вашы памылкі, якія вы нарабілі ў вельмі важных рэдакцыйных актах.

### НА Т. ЗВ. „КРЭСАХ“.

У жыдоўскую краму прыходзіць модны шляхцюк і з цікавасьцяй углядаецца на тавары.

— Што пану трэба? — пытае крамнік.

— *Э, вонтпе чы у вас ест...*

— Не, *вонтпе* мы ня трымаем. У нас толькі мануфактура.

*Я. М*

### ДАКЛАДНА ЗНАЕ.

(*Аўтэнтычна*).

Афіцэр пытаецца некрута (наваранца):

— Дзе радзіўся?

— Ня ведаю добра. Матка казала што ў сваёй хаце.

— Не, дурню! Я пытаюся ў якім месцы?

— На печы ў самым куточку.

*К. С.*

### ЗДОЛЬНЫ ХЛОПЧЫК.

— Татачка, колькі ты заплаціў за гэтыя кніжкі, што мне купіў?

— Дваццаць злотых, сынок.

— Хочаш, я іх табе за пяць злотых прадам.

### НАЙШЛА КАСА НА КАМЕНЬ.

*Пан:* Што ты са мной папросту размаўляеш, ня ведаеш хто я? Я — *естэм родовіты поляк!*

*Селянін:* Але, пане, я чуў што пан ядавіты; дык затое з панам гутарыць трудна. *К. С.*

### МІЛА, ЦІ НЯ МІЛА, А МУСІШ ЕСЬЦІ.

Было гэта ў тыя часы, калі мыла пачало толькі ўжывацца. Прыходзіць у краму глухаваты шляхцюк і, бачачы, што нейкі паважны пан купляе мыла, захацелася і яму купіць, хоць і ня ведаў што гэта за рэч такая.

— Проша даць і мне таго, *цо тэн пан бжал.*

Купіўшы мыла, шляхцюк пачынае есьці.

— Уй, чалавек, што ты робіш, — крычыць жыд, — гэта-ж — мыла!

— Каб ты так на сьвеце быў, як мне міла, але грошы заплаціў, трэба-ж есьці...

— Гэта-ж — мыла ўмывацца!

— Табе міла ўзірацца, каб ты спух. На, пакаштуй што за смак, дык вантробы з цябе вывернець, а... я есьці мушу. **Васілёк.**

### СУЧАСНЫЯ ДЗЕЦІ.

— Татачка, вазьмі мяне на агульны сход, — я буду людзей лічыць.

— Ды ты ня ўмееш яшчэ лічыць.

— Ня плаўда, я ўмею да чатылох.

*С. Ж.*

# Вастрожнае „мэню“.

*Крупіна з крупіной,*
*Лятае з дубінай.*
*(Народн. прыказка).*



У вастрозе се́дзячы гады, —
Чаго тут, браткі, не скаштуеш?
Чаго, чаго, а ўжо вады,
Хоць утапіся, не шкадуюць...

Наранку ўстанеш — чорнай кавы
З цабэрка ў міску налiюць,
Хоць смак яе крыху гаркавы,
Але... „*у горы й сьлёзы п'юць*“.

„Ваўчок“ лапоча. Даюць „коксу“,
Як хвігу, голад замарыць.
Як верабей падымеш крошку,
Так да палудня мусіш жыць.

Даюць палудзень. Не хапайце!
Бо схопіш пэўне чарвяка.
А добра лыжкай пабалтайце,
То знойдзеш пэўне і жука..

Праз краты выкінеш ахвяру,
Бо што-ж у горы ты парадзіш?
За міску з лыжкаю засядзеш,
Ды болей духу, болей пары!..

Сярбаеш поліўку-пансак.
Спацее лоб, язык замочыш.
Ясі, ясі, а есьці хочаш...
Ды што-ж парадзіш, небарак?

Мінуў палудзень і вячэраць
Ужо здаецца-б і засеў,
Бо кішкі марш ужо іграюць,
Вала-б, здаецца, з скурай зьеў.

Вячэра, марная вячэра,
Вадзіца чыстая, гарох.
І тэй вадзіцы на'т у меру
Пашкадаваў ў вастрозе Бог...

У панядзелак: жур і грэчка,
Ў аўторак: кава і капуста,
У сераду: фасоля, грэчка,
Ў чацьвер: пансак і „коксу“ луста.

А прыдзе пятніца і бульбы
Даюць, як толькі напаказ,
І селядца памазаць зубы.—
Куснуў, лізнуў, глынуў зараз.

О, пяты дзень ў вастрозе сьвята!
Чатыры зьмены ўраз даюць:
Тут „сьледзь“, „картофля“ і багата
У міску кавы падліюць.

Ў суботу: кава, пансак, грэчка,
Ў нядзелю: грэчка і пансак,
І таем мы, як з воску сьвечка,
Ды што-ж парадзіш, небарак?

І так наўкола — дні за днямі,
То — каза, жур, гарох, пансак.
Жукоў заменяць авзднямі,
Ды што-ж парадзіш, небарак?!

. . . . . . . . . . . . .

Ал. Салагуб

*Лукішкі.*

# Ідэалы на „Крэсах“

Жадаючы быць ў згодзе з векам,
Я аб „вышэйшым“ лятуцеў,
І мог быць дзельным чалавекам,
Ды... не дапяў чаго хацеў.

Ня гнаўся я за капіталам,
Бо скарбаў для душы шукаў.
Жадаў быць верны ідэалам,
Дык... хвігу ў нос я атрымаў...

Крычэў я гучна аб свабодзе,
Парадкі на „Крэсах“ лаяць сьмеў,
Аб бедным сумаваў народзе,
Дык.. на Лукішках пасядзеў...

Свабоды, роўнасьці і брацтва,
Як Ідэал, я тут шукаў,
І не лятуцеў я аб багацтве,
Дык... у безработныя папаў...

. . . . . . . . . . . . .

Ад мысьляў сумных каб пазбыцца,
А разам і ад бруду места,
Пайшоў я неяк раз памыцца,
У Вільні ў лазьню да Агрэста.

І што-ж? Ура! сярод народу,
Туды памыцца што прыйшоў, —
Братэрства, роўнасьць і свабоду,
Свой ідэал—вось дзе знайшоў!

*Бэдэ.*

## НЕ ПАШКОДЗІЦЬ.

— Суседачка, не давай ты сваймy малому шмат бульбы — жывот папсуе.

— Нічога, ня турбуйся, родненькая, бо ў яго і так папсаваны.

## ВЯЛІКАЕ НЯШЧАСЬЦЕ.

— Чаго-ж ты, Мар'яна, гэтак плачаш?

— Ды вось пішуць у газэтах, што самаход дзяўчынку пераехаў, дык можа майго Стасіка, ён у Вільні ў гімназіі вучыцца?

— Стасік — гэта-ж хлопчык, а самаход дзяўчынку пераехаў.

— Мала што пішуць, будзе табе самаход разьбірацца..

*В. В.*

# Вясёлыя загадкі.

**№ 1.**—Колькі раз трэба паўтарыць літары „й“, каб суняць чалавека.

**№ 2.**—Матка таўстуха, дачка рыжуха, сын перабор — выскачыў на двор.

**№ 3.**—Хаджу на галаве, хоць і на нагах, хаджу я босым, хоць і ў ботах.

**№ 4**—Ляцела чарада вутак: адна вутка наперадзе і дзьве пазадзе, адна пазадзе, дзьве наперадзе, адна паміж дзьвюма і тры ў шарэнгу. Колькі іх было?

**№ 5.**—Аднаго чалавека за хвост пацягнулі ў суд. Як гэта здарылася?

**№ 6.**—Якое падабенства паміж злодзеем і насеньнем фасолі?

**№ 7.**—З чаго пачынаецца бойка?

**№ 8.**—Брат і сястра ўсё сваё жыцьцё глядзяць адно на адно, а зыйсьціся разам ня могуць?

**РАЗГАДКІ**
(ў наступным нумары «Маланкі»)

## СЬМЕРЦЬ АД ЦУКРУ.

— Цукер можа лёгка вызваць хуткую сьмерць

— Глупства!

— Не кажы гоп, пакуль не пераскочыш: на галаву майго бацькі зваліўся мяшок з цукрам і забіў яго на месцы.

*Я. М.*

## АПРАЎДАЎСЯ.

— Вас абвінавачваюць, што вы ўкралі тры пуды жалеза. Што вы скажаце ў сваё ўсправядлівеньне?

— Што мне было вельмі цяжка нясьці, пане судзьдзя.

## НЕ ЗАЎСЁДЫ.

— Прыняў-бы вас на службу, але вы заікаецеся.

— Я, п-па-не, не заўсё-ды, а толькі тады, калі гавару.

*М. Ш.*

## ПЕРШАЕ ПЫТАНЬНЕ.

— Разумееш, мой знаёмы ў мінулым тыдні, зяваючы, вывіхнуў сабе пашчэнку!

— Што вы яму такое расказвалі?



# Людзі, якія працуюць дзеля чыстасьці.





**Бугальтэр**: Якія нячыстасьці ў кнігах! Трэба падскрабсьці.

**Скарбнік**: За касай таксама трэба пільнаваць, каб у ёй усё было акуратна, а галоўнае чыста!

*(З радав. гумару).*

## НАША ПОШТА.

**А. Каранюк**: Свой „верш“ вы канчаеце так:

„А дзісяцкі Станіслаў
„Чуць у . . . . . . .
„Быццым гукі раздаліся,
„Як бандураю бурчав“,

а далей: „выдумав гэты верш сам Андрэй Каранюк“.

Няўжо гэта вы самі выдумалі? Папраўдзе сказаць, не спадзяваліся ад Вас такога таленту.

**Янка Гаротны**: Зьлітуйцеся над намі, не прысылайце больш такіх вершаў, як „Прэч“. Наш рэдактар ужо мае некалькі судовых справаў за конфіскацыі і на „Лукішках“ сядзець ня хоча.

**Смут**: Наш рэдактар, прачытаўшы Ваш верш „Архіп“, мусіў прыняць валерыянавыя каплі і праляжаў у ложку тры дні.

Вось да чаго даводзяць Вашы „вершы“! Не прысылайце больш.

**Іван Баран**: Які ваш „верш“, такі і псэўданім—У кошык!

**Уладзік К.** Верш Ваш „Перадвыбарны“ адлажылі да наступных выбараў.

**Сымон Куновіч**: Не падходзіць. Мала гумару і стыль кульгае.

## Тады — іншая справа.



— Як вам ня стыдна эксплёатаваць служанку?
— Даруйце! Гэта мая жонка!

**Гаварун**: Дзякуем за прыхільнасьць да нас. Вы пішаце:

„Дык вы не шкадуйце грошай
„І выпісывайце „Маланку“,
„Тогда смутны ты ня будзеш“
„І гора се забудзеш
У той раз!..“

Эх, каб Ваша слоўца, ды як кажуць, Богу ў вушка!..

**В. Шаг**: Верш добры, але ўжо неактуальны. Пішэце карацей, образьней. Доўгія вершы мы неахвотна зьмяшчаем.

**Алег Крывіч і Я. Бадзяк**: Не падходзіць. Такіх рэчаў, дзе высьмяваецца селянін і яго цемната зусім не зьмяшчаем. Пара ўжо навучыцца шанаваць сябе.

**Дасьціпны**: У вашых жартах апрача псэўданіму, нічога дасьціпнага няма.

**Усім паважаным падпісчыкам „Маланкі“**, якія прыслалі нам свае жарты, вершы, апавяданьні і т. п. пасылаем свае шчырае дзякуй. Але на вялікі жаль, большая частка прысланага пашла ў кошык, як няпрыдатнае. Наагул радзім лепш апрацоўваць дома перад адасланьнем на пошту, бо шкада стратаў на маркі. Заклікаем, хто ня праслаў падпісной платы, зрабіць гэта неадкладна.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
**ВІЛЬНЯ, Гэтманская вул., № 2**
«МАЛАНКА»

ПАДПІСНАЯ ЦАНА:

на 1 год 8 злот.
„ паўгода 4 „
„ тры мес. 2 „
„ адзін м. 1 „

За граніцу: на год — 2 даляры, на паўгода—1 д. на 3 мес.—50 цэнт.

Рэдактар **М. Луцэвіч**. — Выдавец: **Я. Маразовіч**. Друкарня Б. Клецкіна, Вільня.